Янка КУПАЛА
Мікола ЯЦКОЎ

# На вайсковыя матывы

*Песні на ваяцкі лад*



СПРАВА

Янка КУПАЛА
Мікола ЯЦКОЎ

# На вайсковыя матывы

## *Песні на ваяцкі лад*

СПРАВА

**Брылі 2012**



**СУСТРЭЧА**

***Янка Купала і Мікола Яцкоў***

*Ляўкі, верасень 2011 г.*

Фота Б.Хендэрсана

# Адчуванне будучыні

**У сапраўднага паэта заусёды абвостранае адчуванне часу, свету, будучыні.**

**Янка Купала — сапраўдны паэт.**

**Лёс усклаў на яго цяжкі абавязак - быць Прарокам беларускім, стукацца Словам у сэрцы людскія, весці за сабой. Купала верыў, што слова - магутны сродак уздзеяння. І трэба толькі знайсці неабходную інтанацыю — каб паверылі і адгукнуліся.**

**І калі 22 кастрычніка 1919 года з Варшавы прыйшла вестка аб тым, што начальнік Польскай Дзяржавы Юзэф Пілсудскі падпісаў дэкрэт аб фарміраванні беларускага войска і зацверджэнні Беларускай вайсковай камісіі, Янка Купала ўбачыў у гэтым ці не адзіны шанц для здзяйснення мар беларускіх аб Незалежнасці.**

**І Слова Купалы палымяна ўзляцела над Беларуссю. Старонкі газеты "Беларусь" напрыканцы кастрычніка 1919 года літаральна ўзрываліся купалаўскай публіцыстыкай. Паэт верыў у тое, што народ пачуе ягонае слова:**

***“Ты ўжо ведаеш - многапакутны Беларускі Народзе, што без свае дзяржавы не збавіцца табе ад гора, якога зазнаў ты соткамі год. Але, каб мець сваю дзяржаву, трэба мець сваё войска. Гэтае войска пачынае рабіцца.***

***Няхай жа кожны, здольны да зброі беларус стане ў рады свайго войска. Дружна, ахвотна, у святочным убранні станем пад наш дзяржаўны штандар - Пагоню і пойдзем бараніць свае межы ад чужацкай навалы. /.../ Мы доўга цярпелі, цярпець больш не можам, - мы знаем, што трэба рабіць: што трэба свабоды, зямлі чалавеку, што трэба народ наш будзіць.***

***Уставай жа, Беларускі Народзе! Пасылай сваіх сыноў бараніць свій мілы, любы край і стаяць на варце твайго дабра, твайго жыцця, твае незалежнай Беларускай Дзяржавы!"***

**(Газета “Беларусь”, № 9, 30 кастрычніка 1919 г. )**

**Побач з Купалам-публіцыстам узняў свой гучны голас і Купала-паэт. Ён ясна разумеў, што вершаваны радок, песня з'яўляюцца той магутнай сілай, якая здольна аб'яднаць людзей і натхніць іх на вялікую справу. І практычна імгненна, на адным уздыху з'явіўся цыкл “На вайсковыя матывы ( Песні на ваяцкі лад )”.**

**Характэрнай асаблівасцю гэтага цыкла стала тое, што Купала ствараў словы пад існуючыя народныя мелодыі. Напрыклад, верш “Дзе ты, хмелю, зімаваў” спяваўся на матыў аднайменнай украінскай народнай песні, верш “Будзь здаровы, бацька, маці” клаўся на мелодыю народнай песні “У печы палю, бульбу жару”, а верш “Едзе Янка ў поле” з'явіўся новым увасабленнем беларускай песні “Едзе мужык з поля, валы падганяе”.**

**Адразу ж пасля першай публікацыі ў часопісе “Рунь” (№№ 1, 2, 3, 4 за 1920 г.) на цыкл звярнуў увагу вядомы беларускі кампазітар і фалькларыст Уладзімір Тэраўскі - на некаторыя вершы зрабіў арыгінальную музыку, а для астатніх вершаў зрабіў гарманізацыю існуючых народных мелодый.**

**Зацікавіліся купалаўскімі радкамі і іншыя кампазітары: верш “Дзе ты, хмелю, зімаваў” паклала на музыку Галіна Смірнова, верш “Гэй, паехаў сын Даніла” ператварыў у песню Аляксей Туранкоў, а верш “А ў бары, бары” музычна ўвасобіў Мікалай Аладаў.**

**З-за сваёй ярка акрэсленай беларускай нацыяналістычнасці вершы гэтага цыкла не “ўпісаліся” у рамкі савецкага інтэрнацыяналізму і больш чым на паўстагоддзя былі выкрэслены з беларускага культурнага жыцця – у шматлікіх купалаўскіх выданнях савецкага часу (пасля 1930 года) ім месца не знаходзілася, а песні, што былі калісьці створаны на гэтыя словы, паступова выйшлі з музычнага абарачэння і забыліся.**

**І толькі дзякуючы апошняму Поўнаму збору твораў Я.Купалы (1995 – 2003 г.г.), у беларусаў з’явілася шчаслі-**

**шчаслівая магчымасць дакрануцца розумам і сэрцам да купалаўскай спадчыны…**

**Калі я адкрыў чацверты том гэтага цудоўнага выдання, то адразу адчуў, як купалаўскія “Песні на ваяцкі лад” просяцца на шырокія абсягі беларускай зямлі, у высокую прастору беларускага неба. І амаль адразу ў маёй галаве загучалі мелодыі гэтых неўтаймаваных радкоў - і шырокакрыла паляцелі песні.**

**Вельмі хачу спадзявацца, што песні гэтыя даляцяць да кожнага свядомага беларускага сэрца, зазірнуць у кожнае наша акенца, загучаць у хатах і на пляцах.**

**Выказваю шчырую ўдзячнасць за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтай публікацыі паэту Сяргею Сцяпанавічу Панізьніку, кіраўніцтву Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і асабліва загадчыцы аддзела фондаў музея Марыі Кандратаўне Чабатарэвіч.**

***Мікола ЯЦКОЎ.***

# Дзе ты, хмелю, зімаваў?..

Словы Янкі Купалы
Музыка Міколы Яцкова




*Жыццё*

Дзе ты, хмелю, зімаваў,
Што не разьвіваўся?
Дзе ты, сынку, начаваў,
Што не разуваўся?

Зімаваў я ў старане,
Дзе віхуры дзьмулі;
Начаваў я на вайне,
Дзе гуляюць кулі.

Дзе ты, хмелю, ўлетку цьвёў,
Што засох бязь сьледу?
Дзе ты, сынку, дзень правёў,
Што і не абедаў?

Цьвёў я ўлетку, дзе пякуць
Сьпекі агняваты;
Дзень правёў я, дзе гудуць,
Як грымот, гарматы.

Чаму, хмелю, не адну
Зносіў сьцюжу, сьпеку?
Чаму, сынку, на вайну
Шоў ты ў небясьпеку?

Доля кінула мяне
Гінуць так, як гіну;
Ваяваў я на вайне
За сваю краіну.

*1919* г.

# Габруся ў жаўнерку ўзялі...

Словы Янкі Купалы
Музыка Міколы Яцкова






*Зямля*

Габруся ў жаўнерку ўзялі,
Ад дамоўства адарвалі.
Зажурыўся стары татка,
Стогне, плача цяжка матка,
    Ой, Габруська!
    Ой, Габруська!

Не журбуйце, тата, маці!
Я ўсядзець ня мог у хаце,
Сам пайшоў па добрай волі,
Паспытаць ваеннай долі,
    Не журбуйце,
    не журбуйце!

Сваякі ўсе і суседзі –
Ніхто дома зь іх ня ўседзеў,
Выйшлі ўсе з аднэю радай –
Бараніцца ад нападу,
    Бараніцца,
    бараніцца!

Мучыць вораг нас заўзяты:
Папаліў нам нашы хаты,
Патаптаў нам наша поле,
Пакараў людцоў няволяй...
    Мучыць вораг,
    мучыць вораг!

І мы ў шапку спаць ня будзем,
І пакажам сьвету, людзям,
Як баронім межы родны
Ац напасьці ад нягоднай.
    Як баронім,
    як баронім!

Не журбуйце ж, тата, маці!
Буду вас яшчэ вітаці,
Як з вайны здароў вярнуся
І вам нізка пакланюся...
    Не журбуйце,
    не журбуйце!

А як згіну, то зязюля
Прыляціць да вас адтуля
І ля вокнаў, ля хаціны
Закукуе, што я згінуў.
    Закукуе,
    закукуе!

*1919 г.*

# Гэй, паехаў сын Даніла...

Словы Янкі Купалы
Музыка Міколы Яцкова






*Сонца*

Гэй, паехаў сын Даніла
Ваяваць на вайну,
Ад нападу, ад няволі
Бараніць старану.

Сына маці выпраўляла,
Крыж на памяць дала,
Каб матулю родну помніў,
Як паедзе зь сяла.

А дзяўчына, міла сэрцу,
Правяла за сяло
І дала на памяць персьцень,
Каб у бойках вязло.

Так паехаў сын Даніла
Сам сабой на вайну,
Азірнуўся на хаціну
Ды змахнуў сьлязіну.

Ехаў поле і другое,
Трэцьце поле дасьціг,
Дзе сабраліся жаўнеры
Зь сёл і вёсак усіх.

І пайшлі яны паходам,
Дружна, сьмела пайшлі,
Каб вон злыбяду прагнаці
Зь беларускай зямлі.

Добра ўсе там ваявалі, –
Умiралі ў баю.
А найлепш Даніла біўся
За краіну сваю.

Хто йшоў ззаду, а хто збоку,
Азіраўся назад,
А Даніла ўсюды ўперад
Выступаці быў рад.

І ручыла, шанцавала
Ў бітвах цяжкіх яму,
Ажно вораг напужаны
Дзіваваўся таму.

Год мінуў, як ваяваці
Шоў Даніла зь сяла,
А ўжо слава па ўсім сьвеце
Аб ім громка ішла.

Як ачысьцілі ваякі
Край ад ворага свой,
Важна ехалі дадому,
Як тых пчол буйных рой.

А наперадзе ўсіх едзе
Наш Даніла з вайны,
Шабля бліскае пры боку,
Конь пад ім буланы.

Ён вязе ўсім падарункі:
Маці срэбны абраз,
А сваей дзяўчыне мілай
Доўгі пацерак зьвяз.

*1919 г.*

# Будзь здаровы, бацька, маці...

Словы Янкі Купалы
Музыка Міколы Яцкова





*Маці-Радзіцельніца і Святое дрэва*

Будзь здаровы, бацька, маці, –
Мы пайшлі ўжо ваяваці.
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

Што за доля, што за воля –
Жаўнероньку выйсьці ў поле!
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

Нам няўцям віхры, грымоты,
Дадае нам гром ахвоты.
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

Днём ваюем, ночкай дрэмем,
А што блізка вораг – кемім.
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

Сьпім на ўзьмежку пад ігрушай,
Дожджык моча, сонца суша.
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

Ёсьць ці не хлеб і да хлеба,
І бяз хлеба знойдзем неба.
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

Мы – ваякі, забіякі,
Сьцеражэцеся, ламакі!
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

Камандзір наш знае дзела, –
Ён на ворага йдзе сьмела.
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

Паваюем, пагаруем,
Зато дома запануем.
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

Запануем, як і людзі,
Ў хату вораг лезьць ня будзе,
Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

*1920 г.*

# А Ў БАРЫ, БАРЫ...

Словы Янкі Купалы
Музыка Міколы Яцкова




*Росквіт прыроды і жыцця*

А ў бары, бары
Тры дарожанькі.
Гэй, гэй, гэй,
тры дарожанькі!
Тудой шоў жаўнер
Наш прыгожанькі.
Гэй, гэй, гэй,
наш прыгожанькі!

Стаў, глядзіць жаўнер,
Сумняваецца.
Гэй, гэй, гэй,
сумняваецца.
Па якой пайсьці
Надумляецца.
Гэй, гэй, гэй,
надумляецца!

Па адной пайсьці –
Не пашэньціцца.
Гэй, гэй, гэй,
не пашэньціцца!
Завядзе на ўсход,
Скуль ня вернецца.
Гэй, гэй, гэй,
скуль ня вернецца!

Па другой пайсьці –
Абняволіцца.
Гэй, гэй, гэй,
абняволіцца!
Бо ў заходні бок
Шлях той коціцца.
Гэй, гэй, гэй,
шлях той коціцца!

Выбіраў жаўнер
Трэцьцю сьцежаньку!
Гэй, гэй, гэй,
трэцьцю сьцежаньку!
Бо вяла яна
Ў родну межаньку.
Гэй, гэй, гэй,
ў родну межаньку!

І запеў жаўнер
Той прыгожанькі.
Гэй, гэй, гэй,
той прыгожанькі!
А ў бары, бары
Тры дарожанькі.
Гэй, гэй, гэй,
тры дарожанькі!

*1920 г.*

# Ой, вяду бяду...

Словы Янкі КУПАЛЫ
Музыка Міколы ЯЦКОВА






*Ярыла на кані*

Ой, вяду бяду,
А бяда мяне
    Водзіць вечным сьледам;
Гэтак ходзім мы
За адным адно,
    Як той дзед за дзедам;

Гэй, паклічу сход,
Ды зьбяру народ,
    Ды зьбяру жаўнераў,
Хай ідуць вайной
На маю бяду –
    На ліхога зьвера.

На мой кліч на сход
Гмін народу йшло,
    Шоў ваяк з ваякам, –
Кожны сьмел, ахвоч,
Б'е адвага з воч,
    Поле ўслалі макам.

Як той лес, жаўнер
Ля жаўнера стаў,
    Зброя ў сонцы йграе;
Зварухнуўся полк,
А за ім – другі,
    Толькі сьцяг мігае.

Мах за крокам крок!
Войска йдзе ў паход,
    Быццам тая хмура.
Аж дрыжыць зямля,
Як ваякі йдуць.
    Ды пяюць, як бура.

Гэй, выходзь бяда,
Гэй, выходзь, хто нам –
    Непрыяцель – вораг;
Пачастуем так,
Што папомніш век,
    Ды сатром на порах.

Знай, жаўнеры мы,
Выйшлі не на жарт
    Біцца, ваяваці;
Знай, хавалі нас
Поле, бор і лог
    Беларусі-маці!

*1920 г.*

# Едзе Янка ў поле...

Словы Янкі Купалы
Музыка Міколы Яцкова






*Багач*

Едзе Янка ў поле,
Едзе ваяваці,
А дзяўчына, як маліна,
Выйшла праважаці.

Адчапіся, дзеўка!
Што ты ка мне маеш?
Бачыш, еду на пабеду,
А ты замінаеш.

Журыцца дзяўчына,
Што Янук пакінуў...
Той паехаў на пацеху,
Бараніць Айчыну.

Доўга ці каротка
Ваяваў наш Янка,
Ажно ў вёску ён дарожкай
Прэцца, як маланка.

І дамоў прыехаў
З тэй вайны, здалёку,
А дзяўчына, як маліна,
Пазірае збоку.

Падыйдзі, дзяўчынка, –
Ці ж мяне ня знаеш?
Бачыш, еду я з пабеды,
А ты ані дбаеш.

Цешыцца дзяўчына,
Што Янук ня згінуў,
Той ураз жа ёй і кажа:
Ўбараніў Айчыну.

*1920 г.*

# Гэй, у лесе, пры даліне...

Словы Янкі Купалы
Музыка Міколы Яцкова






*Голуб і Галубка - сімвал кахання*

Гэй, у лесе, пры даліне,
У нас сталася бяда.
Гэй, гэй, у лесе, лесе
У нас сталася бяда.

К нам там выйшла на сустрэчу
Дзяўчынанька малада.
Гэй, гэй, выйшла, выйшла
Дзяўчынанька малада.

А мы, хлопцы, ўсе не зломкі,
Спадабалі ўсе яе.
Гэй, гэй, хлопцы, хлопцы,
Спадабалі ўсе яе.

Кожны лезе па-жаўнерску
Прытуліці да сябе.
Гэй, гэй, лезе, лезе
Прытуліці да сябе.

Чуць ня сталі нашы хлопцы
За дзяўчыну біцца там.
Гэй, гэй, сталі, сталі
За дзяўчыну біцца там.

Аж тут кажа камандзір наш
Кінуць жэрабя ўсім нам.
Гэй, гэй, кажа, кажа
Кінуць жэрабя ўсім нам.

Хто лёс будзе мець шчасьлівы,
Будзе мець дзяўчыну той.
Гэй, гэй, будзе, будзе,
Будзе мець дзяўчыну той.

А так біцца за спадніцу
Не гадзіцца, дружа мой.
Гэй, гэй, біцца, біцца
Не гадзіцца, дружа мой.

Вось мы лёсы пацягнулі.
Ах, каб цёмны на іх вір!
Гэй, гэй, лёсы, лёсы,
Ах, каб цемны на іх вір.

Самі, братцы, пасудзіце:
Выйграў дзела камандзір.
Гэй, гэй, братцы, братцы,
Выйграў дзела камандзір.

*1920 г.*

Паважаны сп. Мікола!

Дасылаем Вам некаторыя вершы Янкі Купалы:

„Дзе ты, зямлю, зімаваў..."
„Едзе Янка ў поле"

Астатнія вершы напісаны машын. на папяроснай паперы і маюць адбіткі, што цяжка прачытаць. Гэта можна заўважыць на некат. месцы верша „Дзе ты, зямлю..."

Было б пажадана, каб у тэксце артыкула з надрукаванымі вашымі матэрыяламі стаяў подпіс: „З фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы".

Анацыраванне да вершаў на фондавых дакументах дадзена на адваротных старонках некаторых.

Дасылаю Вам некаторыя верша Я. Купалы „Габрусь ў жаўнерскім ўборы", надрукаванага ў часопісе „Рунь" №2, 1920 г.

Зычым Вам плёну ў працы.

Заставайцеся здаровы.

Вясновага настрою для душы, шчасця і радасці на карысць Беларушчыны —

ад шчырага сэрца заг. аддзела фондаў М. Чабатарэвіч

8. 04. 2005 г.

*Ліст ад М.К.Чабатарэвіч*



*Рукапіс верша “Дзе ты, хмелю, зімаваў”*

ЗЬЯВА X-я.

Пан, пасьля Аксана.

Пан (*сеў і крыху задумаўся; пасьля кліча*): Аксана!..

Аксана (*ўваходзіць*). Будзьце ласкавы, паночку, я вам ужо прыгатавала пасьцель.

Пан. Аксана! Хадзі сюды, бліжэй!

Аксана (*ціха баязьліва падыходзіць. Пан абнімае яе*).

Пан. Чаго-ж так спалохалася? Быццам першы раз... Ужо ж не першыня... Ну, пацалуй мяне, Аксаначка!

Аксана (*падае на калені*). Паночку Пашкадуй мяне! Не пагань мяне жонку мужаву Зьлітуйся нада мной!.. О, бедная-ж мая гало ванька!..

Пан. Вось, дурная! пачала галасіць. Ці ха! Хадзі! Гарэлкі хочаш? Гарэлкі дам, тады плакаць ня будзеш,—вясёлай станеш... Хадз (*Цягне яе ў камору*).

Аксана. Ой, ліханько мне! Што-ж цяпер зраблю. (*Выходзяць*).

Заслона.

(*Канец будзе*).



*Рыс. Драздовіч.*

## Песьні на ваяцкі лад.

(Паводле народн. мэлёдыяў).

*Перадрук забараняецца.*

### Габруся ў жаўнерку ўзялі...

Габруся ў жаўнерку ўзялі,
Ад дамоўства адарвалі.
Зажурыўся стары татка,
Цяжка стогне, плача матка,
Ой, Габруська! ой, Габруська!

Ня журбуйце, тата, маці!
Я ўсядзець ня мог у хаце,
Сам пайшоў па добрай волі
Пасмытаць ваеннай долі
Ня журбуйце, ня журбуйце!

Сваякі ўсе і суседзі—
Нікто дома з іх ня ўседзеў,
Выйшлі ўсе з адною радай—
Бараніцца ад нападу.
Бараніцца, бараніцца!

Мучыць вораг нас заўзяты:
Папаліў нам нашы хаты,
Патаптаў нам наша поле,
Пакараў людцоў няволяй.
Мучыць вораг, мучыць вораг!

І мы ў шапку спаць ня будзем,
І пакажам сьвету, людзям,
Як баронім межы роднай
Ад напасьці, ад нягоднай.
Як баронім, як баронім!

Ня журбуйце-ж, тата, маці!
Буду вас яшчэ вітаці,
Як з вайны здароў вярнуся
І вам пізка пакланюся.
Ня журбуйце, ня журбуйце!

А як згіну, то зязюля
Прыляціць да вас адтуля
І ля вокнаў, ля хаціны
Закукуе, што я згінуў.
Закукуе, закукуе!

Янка Купала.

---

*Публікацыя верша "Габруся ў жаўнерку ўзялі" ("Рунь" №2, 1920 г.)*



**Іван Дамінікавіч Луцэвіч** нарадзіўся 25 чэрвеня (7 ліпеня) 1882 г. ў фальварку Вязынка Вілейскага павета. У 1898 скончыў Беларускую народную вучэльню. У пачатку снежня 1909 г. пераехаў у Пецярбург, дзе вучыўся і працаваў. Жыў у Вільні, працаваў рэдактарам «Нашай нівы». У 1919 г. пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. Працаваў загадчыкам бібліятэкі, рэдактарам. Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускага драматычнага тэатра і Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Неаднаразова падвяргаўся рэпрэсіям. У 1921 г. на паэта былі накладзены хатні арышт і канфіскаваны рукапісы. Купалу выклікалі на допыты ў ДПУ, і 20.11.1930 пасля такой «гутаркі» ён зрабіў спробу самагубства, але быў выратаваны. У 1937 г. над ім у чарговы раз навісла пагроза, але арышту ўдалося пазбегнуць.

Я. Купала ўдзельнічаў у рабоце I з'езда Савецкіх пісьменнікаў БССР, быў дэлегатам на I з'езд ССП СССР, дэпутатам Мінскага гарадскога Савета, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

30 чэрвеня 1941 з дачы ў Ляўках Янка Купала выехаў у Маскву. 3 лістапада 1941 ён жыў каля Казані. 18 чэрвеня 1942 г. прыехаў у Маскву і праз 10 дзён трагічна загінуў у гасцініцы «Масква» пры нявысветленых абставінах — упаў у лесвічны пралёт з 10 паверха. Быў пахаваны на Ваганькаўскіх могілках у Маскве. У ліпені 1962 г. урна з прахам Янкі Купалы перавезена ў Мінск і перапахавана на Вайсковых могілках.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941) за зборнік «Ад сэрца».



**Мікалай Адамавіч Яцкоў** нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 года працуе дырэктарам Брылёўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў больш за 1000 песен на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар песенных зборнікаў "Гронка бэзу" (на вершы Тамаша Ляшонка), "Знічка" (на вершы Івана Карэнды) і інш.

Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага “Гімна Магілёва”.

# Змест

*Літаратурна-музычнае выданне*
На правах рукапісу

Янка Купала (Луцэвіч Іван Дамінікавіч)
Яцкоў Мікалай Адамавіч

# НА ВАЙСКОВЫЯ МАТЫВЫ

***Песні на ваяцкі лад***

Рэдактар - Ю.М.Яцкова
Нотаграфія - М.А.Яцкоў (рукапіс)
Ілюстрацыйны матэрыял з фондаў
Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.
Выкарыстаны выявы беларускіх арнаментаў
з кнігі М.С.Кацара “Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка”.
Фармат 14,85x21.
Гарнітура Times New Roman, Arial Narrow
Выдавец і паліграфічнае выкананне

СПРАВА

№ 65
15. 05. 2012 г.
213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь
mikolabryl@gmail.com

